Год III. Ліпень-Жнівень 1934 г. № 7-8 (31-32)




Ты є́си Пе́тръ,
и̑ на се́мъ ка́мени сози́ждꙋ це́рковь мою. Матѳ. ѕі. иі.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Тагарыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!"

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

**Цана асобнага нумару 20 гр.**

**Падпіска на паўгода . . . . 1 зл.**

**„ год . . . . . 2 „**

**Заграніцу ўдвая даражэй.**

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

**Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.**

**Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.**

**Skrzynka pocztowa Nr. 245.**

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Ліпень-Жнівень 1934 г. № 7-8 (31-32).

## Сьвята нараджэньня Сьв. Іоана Хрысьціцеля Госпадавага.

(*24 чэрвеня*).

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗ 1,5—25, 57—68, 76, 80; ЗАЧАЛА 2—4.*

5. Таго часу быў у дні Ірада, Юдэйскага цара, адзін сьвяшчэньнік на імя Захарыя, з чароднай зьмены Авія, а жонка яго з дачок Ааронавых, а імя ёй Альжбета.

6. І былі абое справядлівымі перад Богам, бяз пруганы паступаючы паводле ўсіх прыказаньняў і справядлівасьці Госпадавай.

7. І ня было ў іх дзіцяці, бо Альжбета была бясплодная, і абое былі ў днёх сваіх падстарэўшы.

8. І вось сталася, як служыў у калейным сваім парадку перад Богам,

9. Паводле сьвяшчэнскага звычаю, упаў на яго лёс, каб ішоў кадзіць у Госпадавай сьвятыні.

10. А ўся грамада народу была вонках, молячыся падчас каджэньня.

11. І паказаўся яму Ангел Госпадаў, стоячы на права ад кадзільнага аўтара.

12. А ўбачыўшы, Захарыя спалохаўся і напала на яго трывога.

13 Але Ангел яму сказаў: Захарыя, ня бойся! бо вось паслухана ёсьць твая малітва: а жонка твая Альжбета народзіць табе сына і дасі яму імя Іоан.

14. І будзеш мець уцеху і радасьць, а многія будуць цешыцца з ягоных нарадзінаў,

15. Бо ён будзе вялікім у Бога, а віна і напіткаў піць ня будзе і напоўніцца Духам Сьвятым яшчэ ў лоне сваей маткі.

16. І многіх з сыноў Ізраіля наверне да Госпада Бога іхнага.

17. А сам прайдзе перад Ім у духу і сіле Ільлі, каб навярнуць сэрцы бацькоў да дзяцей, а няверучых— да мудрасьці праведных, каб прыгатаваць Госпаду народ дасканальны.

18. І сказаў Захарыя Ангелу: Па чым-жа я гэта пазнаю? Я ўжо стары і жонка мая ў гадох сваіх пад- старэўшы?

19. А Ангел адказаў яму: Я ёсьць Гаўрыіл, каторы стаю перад Богам: і я пасланы, каб сказаць і апавясьціць табе гэтую навіну.

20. Дык вось будзеш нямы і ня будзеш магчы гаварыць аж да дня, калі гэта станецца: за тое, што ты не паверыў маім словам, якія споўняцца ў сваім часе.

21. А народ чакаў Захарыі і дзівіўся, што ён марудзіў у сьвятыні.

22. Калі-ж выйшаў, ня мог да іх гаварыць, і пазналі, што ў сьвятыні відзеў зьяву. А ён паказваў на мігі і астаўся нямы.

23. І вось як споўніліся дні ягонай службы, вярнуўся ў свой дом.

24. А пасьля гэтых дзён зачала Альжбета, жонка ягоная, і таілася праз пяць месяцаў, кажучы:

25. Што так мне прычыніў Госпад у тым часе, калі ўзглянуў, каб зьняць з мяне ганьбу перад людзьмі?

57. І споўніўся Альжбеце час радзіць і нарадзіла сына.

58. І пачулі суседзі яе і радня, што Бог надзяліў яе сваёй міласьцяй, і цешыліся з ёю.

59. А на восьмы дзень прышлі абразаць дзіця і называлі яго імем бацькі — Захарыя.

60. І адказваючы, матка яго сказала: Ня так, але назавецца Іоан.

61. І сказалі ёй, што няма нікога ў тваім родзе, каб называўся гэтым імем.

62. А знакамі пыталіся ў ягонага бацькі, як хацеў-бы яго назваць?

63. І папрасіўшы таблічку, напісаў словы: «Іоан» мае быць яму імя. І дзівіліся ўсе.

64. І вось адчыніліся вусны яго і язык ягоны: і гаварыў, багаславячы Бога.

65. І напаў страх на ўсіх іхных суседзяў: а ўсе гэтыя словы былі расслаўлены па ўсіх горах жыдоўскай зямлі.

66. А ўсе, што чулі, клалі да сэрца свайго, гаворачы: Што, думаеш, будзе за дзіця такое; бо рука Госпада была з ім.

67. А Захарыя, ягоны бацька, напоўнены Духам Сьвятым, праракаваў, кажучы:

68. Багаслаўлены Госпад Бог Ізраілеў, што адведаў і даў выбаўленьне свайму народу.

76. І ты, дзіцятка, назавешся прарокам Найвышэйшага, бо пайдзеш прад воблікам Госпада, каб прыгатаваць Яму дарогу.

80 А дзіця ўзрастала і ўзмацнялася Духам: і прабывала на пустыні, аж да дня свайго зьяўленьня перад Ізраілем.

---

У чэсьць Сьв. Іоана Прарока і Хрысьціцеля Госпадавага Сьв. Царква абходзіць 2 разы ў год сьвята: нараджэньня і яго сьмерці. Апрача Сьв. Іоана Хрысьціцеля толькі ў чэсьць Найсьвяцейшае Дзевы Марыі сьвяткуем дзень нараджэньня, іншых сьвятых Сьв. Царква праслаўляе ў дзень іх сьмерці або назначае іншы дзень, дзеля сьвятога жыцьця ды сьвятой сьмерці, а ня з прычыны нараджэньня. Бо кожны сьвяты выявіў сваю сьвятасьць, заслужыў перад Госпадам Богам на вялікую чэсьць быць з Богам у Яго царстве праз сваё жыцьцё, праз свае паступкі, а не праз нараджэньне. Кожны чалавек родзіцца на сьвет з першародным грахом, аднак-жа Сьв. Царква ўстанавіла сьвята Нараджэньня Сьв. Іоана Хрысьціцеля дзеля таго, што ўсьвяціў яго яшчэ ў лоне Сьв. Альжбеты Госпад Наш Ісус Хрыстос у часе навяшчэньня Прасьвятой Дзевай Марыяй Сьв. Альжбеты.

Ведаем, што Сьв. Іоан меў вельмі важную задачу: падрыхтаваць людзей да прыняцьця Мэсіі, ён быў у плянах Божых папярэднікам Ісуса Хрыста. Падрыхтоўваў Сьв. Іоан сэрцы людзей праз пакуту. На берагох ракі Іардану прапаведваў неабходнасьць пакуты і, у знак пакуты, хрысьціў у рацэ Іардане. **„І выходзілі да Яго ўся старана Юдэйская і Ерусалімцы, і хрысьціліся ў рацэ Іардане, спавядаючыся з грахоў сваіх“** (Мр. 1, 5).

Да Яго на раку Іардан на самым пачатку сваей публічнае дзейнасьці прыйшоў Ісус Хрыстос і, хаця не патрабаваў пакуты, будучы самай сьвятасьцяй, аднак дзеля прыкладу пакоры прыняў хрост.

Сьв. Іоан быў апошнім з пракаў Старога Закону. Ён зьяўляецца як-бы кальцом, што лучыць Стары Закон з Новым. Іншыя пракі за сотні гадоў прадказвалі прыход Мэсіі ды апісвалі падробна Мэсію. Сьвяты Іоан таксама прадказваў прыход Хрыста, але ўжо з блізка і паказваў людзям Яго, кажучы: **„Вось Ягня Божае, што бярэ на Сябе грахі ўсяго сьвету“** (Іо. 1, 29).

Вялікую ды вельмі важную меў узложаную на сябе задачу Сьв. Іоан Хрысьціцель і гэту задачу выпаўніў якнайлепш.

Цяпер падумайма, мае даражэнькія, якімі цнотамі ад'значыўся Сьв. Іоан, калі Ісус Хрыстос, успамінаючы аб ім казаў: **„Бо кажу Вам: з роджаных жанчынамі няма ніводнага прарока, большага за Іоана Хрысьціцеля“** (Лук. 7, 28).

Сьв. Іоан ад'значаўся ўсімі цнотамі ў высокай ступені, але асабліва, як-бы характарнымі цнотамі Сьв. Іоана Хрысьціцеля зьяўляюцца: пакора ды адвага.

Вялікую пакору выявіў Сьв. Іоан Хрысьціцель, калі прыйшлі да яго дэлегаты, высланьнікі ад фарызэяў ды старшых з пытаньнем, ці часам ня ён ёсьць Мэсіяй? Слава аб ім ужо разыйшлася па ўсёй жыдоўскай зямлі. Мог-бы толькі ня вырачыся таго, за каго яго лічылі, і ўсе прызналі-б яго за Мэсію, або за аднаго з вялікіх прарокаў. Аднак ня толькі ня прызнаўся да таго, чым ня быў, але назваў сябе праз пакору толькі голасам гукаючага на пустыні: **„І сказаў ім: я голас гукаючага на пустыні: Прастуйце шлях Госпаду, як сказаў прарок Ісайя“** (Іо. 1, 23).

А калі да яго прыйшоў Мэсія, аб Каторым ён так часта людзям казаў, тады ён выявіў вялікую пакору, кажучы: **„Гэта Той, што йдзе за мною, але наперадзе мяне быў, Якому я ня варты разьвязаць рамень абуцьця Яго“** (Іо. 1, 27).

Рупіўся ў сваім жыцьці Сьв. Іоан толькі аб адным: каб быў праслаўлены Хрыстос, а ён каб быў нязнаным: **„Яму— кажа — час расьці, а мне малець“** (Іо. 3, 30). Да Ісуса Хрыста пасылаў сваіх вучняў і жадаў, каб пры Ім засталіся. Сьв. Іоан Хрысьціцель жадаў быць нічым, каб толькі быў праслаўлены Хрыстос.

Некаторым здаецца, што пакора ня можа ісьці ўпары з энэргічнаю дзейнасьцяю, з няўстрашанаю адвагаю. Пакору часта лічаць за маладушнасьць, нясьмеласьць ды адсутнасьць дзейнасьці. Хто гэтак думае, той вельмі памыляецца. Гэта мы бачым на прыкладзе Сьв. Іоана Хрысьціцеля. Няма ніякага сумліву ў тым, што Сьв. Іоан быў вельмі пакорны, таксама ведаем аб яго дзейнасьці ды вялікай адвазе.

Ён быў вялікім прапаведнікам над ракою Іарданам, ён не баяўся казаць праўду нават валадаром гэтага сьвету. **„Ірад-жа чацьвёртаўладнік, дакараны ім за Ірадыяду, жонку брата яго, Піліпа, і за ўсё, што Урад зрабіў благога“** (Лук. 3, 19). Гэта было прычынаю вялікай ненавісьці і злосьці Ірадыяды, з катораю Ірад жыў у грэшнай сувязі. Злая жанчына дасягнула свайго: Сьв. Іоану Хрысьціцелю Ірад казаў адсячы галаву, і гэту галаву падалі злоснай жанчыне. Адважны Сьв. Іоан Прадцеча выпаўніў свой абавязак прарока і за гэта пасьля адважна палажыў галаву сваю пад катаўскі меч.

Вось, мае дарагія, прыклад для перайманьня! Сьв. Іоан Хрысьціцель, ня толькі ёсьць нашым заступнікам перад Богам, да каторага мы можам зьвяртацца ў сваіх патрэбах, але ёсьць таксама для нас прыкладам. Калі Сьв. Іоан Хрысьціцель, які быў найвялікшым сьвятым, лічыў сябе за нішто перад Богам, дык тым больш мы павінны быць пакорнымі і ня думаць, што штось вартыя. Праўда, з ласкавасьці Божае, мы можа маем у сабе некаторыя цноты, можа што-небудзь робім і добрае, але мы не павінны прыпісваць добрае выключна сабе, бо ўсё добрае мы робім пры помачы Божай, з Яго ласкі. Замест думаць аб сваіх заслугах, лепш будзе зьвярнуць сваю думку да Бога, сьцяміць грэшны стан свае душы ды ад шчырага сэрца сказаць: „Божа, будзь міласэрны для мяне грэшнага“. У нашай Сьв. Літургіі, паводле ўсходня-славянскага абраду, вельмі часта пабуджаюцца верныя да пакоры. Як часта мы гаворым да Бога гэтыя простыя словы, аднак поўныя зьместу: **„Господи помилуй“**. Што можам мы грэшныя лепшага сказаць Богу, як толькі тое, каб зьмілаваўся над намі грэшнымі, дараваў нам нашыя грахі? У гэтых двох словах выяўлены праўдзівыя нашыя адносіны да Бога, праўдзівая пакора. Пакора павінна выяўляцца ня толькі на словах, але на дзеле, у жыцьці. Нажаль, у жыцьці праўдзівай пакоры ў адносінах да Бога і людзей нам не хапае.

Як няма ў нас пакоры, так сама часта не хапае нам адвагі. Як часта маўчым там, дзе трэба сказаць, як часта не выпаўняем свайго абавязку з увагі на асобу. Як часта здараецца бачыць, што людзі ня маюць адвагі нават перажагнацца, — стыдаюцца, маюць сорам там, дзе няма ніякага сораму. Як-жа часта людзі не выпаўняюць сваіх абавязкаў

хрысьціяніна, як напрыклад, ня йдуць да споведзі толькі дзеля таго, каб які дурны чалавек не пасьмяяўся. Кажу дурны, бо разумны, нават сам няверуючы, ніколі ня будзе сьмяяцца з выяўленьняў веры другімі.

Маючы прыклад перад вачыма сяньняшняга сьвятога, знаючы пакору і адвагу Сьв. Іоана Хрысьціцеля, парупімся і мы, каб быць да яго хоць трошачкі падобнымі. Будзем таксама прасіць Сьв. Іоана Хрысьціцеля, каб заступіўся перад Госпадам Богам, каб выпрасіў нам ласку, быць запраўды пакорнымі ды адважнымі. Амін.

*а. Антоні.*

---

# Люрд.

Як ведама, у Люрдзе істнуе лякарская камісія, якая займаецца дасьледаваньнем хворых і вылечаных, прыбыўшых у Сьв. Грот. Таксама і іншыя лекары з розных краёў, калі пакажуць лекарскі дыплём, дапушчаюцца да перагляданьня актаў і да паседжаньняў. У апошнім справаздаўчым годзе адведала канцэлярыю Камісіі 896 лекараў з розных краін, дасьледуючы рэзультаты працаў Камісіі і бяручы ўдзел у фаховых дэбатах. У гэтым ліку найбольш было французаў, бо аж 592, апрача таго 84 бэльгійцы, 79 італьянцаў, 41 ангелец, 23 гішпанцы, 6 аўстрыйцаў, 4 немцы і г. д. Трэба дадаць, што істнуе міжнародная арганізацыя лекароў, якія цікавяцца выздараўленьнямі ў Люрдзе. Лік сяброў гэтае арганізацыі павялічыўся з 1669 да 1885 у працягу апошняга справаздаўчага году. У працягу гэтага году выдзелена 88 выпадкаў вылячэньня, вартых фаховых мэдычных досьледаў. Сярод гэтых 88 выпадкаў сьцьверджана 17 гэткіх, калі выздараўленьне толькі здавалася, бо хвароба ў сваіх істотных праявах істнавала далей. У рэшце выпадкаў (71) сьцьверджана фактычнае выздараўленьне, аднак-жа пастаноўлена парадзіць пачаканьне, каб сьцьвярдзіць, што вылячэньне ёсьць трывалым. Час чаканьня працягнецца пераважна да канца 1934 году, каб ухіліць усе сумляваньні. Зразумела, што некаторыя выздараўленьні гэткія над'звычайныя, што ўжо наперад можна сьцьвярдзіць іх надпрыродны характар. Апрача ўспомненых 88 выпадкаў, дасьледавана ў апошнім справаздаўчым годзе 45 даўнешых выпадкаў і ў 15 з іх сьцьверджана бяз ніякага сумляваньня, што ніякаю натуральнаю прычынаю выясьніць выздараўленьня нельга. Трэба зазначыць, што Царква ня выказвае свайго зданьня датычна выздараўленьня ў Люрдзе, хіба што ўвайдзе гэта ў рамы бэатыфікацыйнага ці канонізацыйнага працэсу. **(КАП).**

# Скала Пятрова.

*На дзень урачыстасьці сьвв. Пётры і Паўла.*
*(29 чэрвеня).*

У дзень урачыстага сьвята вялікіх Апосталаў Пётры і Паўла стаімо як быццам каля калыскі Царквы і зьдзіўленна глядзімо на гэтыя дзьве постаці сьвятых Апосталаў, якім Хрыстос загадаў угрунтаваньне і расшырэньне царства свайго на зямлі. У чырвоных літургічных рызах, сымболізуючых вялізны жар любові і пралітую за веру кроў, Царква сьвяткуе іхную ўрачыстасьць і ў адным з гымнаў сваіх з радасьцю пяе: „Багаслаўлёны Рыме, слаўнаю крывёю ўсьвячаны і ўпрыгожаны яе пурпурам, хараством перавышаеш усе іншыя месты“. У бок Рыму, вечнага гораду, з яго чатырма стамі цэркваў, з яго катакомбамі і грабніцамі мучанікаў, да вышыняў Ватыкану зьвяртаецца сяньня вачыма ўвесь каталіцкі сьвет з шляхотнаю гордасьцю, таму што на Пятровай скале пабудованая Царква ня толькі ўстаяла перад гістарычнымі бурамі і трывае неперажытая, але таксама і бясстрашная, незалежна прапаведуе адвечныя Божыя праўды з гэткаю рашучасьцю, якая толькі праўдзе можа належаць. Так, бо ў Пётры ёсьць уся праўда, з Ім злучана вера ў Хрыста, Ён ёсьць ня толькі цэнтрам адзінства і найвышэйшым аўторытэтам, але і мернікам праўдзівае веры. Дзе няма скалы, там няма Царквы і няма таксама і Хрыста. Адтуль для нас, каталікоў, вера ў Сына Божага, вернасьць Царкве і супольнасьць з Сталіцаю Пятровай стаяць у неразрыўным саюзе. Так, як адна ёсьць Галава нявідочнае Царквы — Хрыстос, дык адна ёсьць і галава відочнае Царквы, незалежная, сувэрэнная, абмяжованая толькі Божым законам позытыўным і натуральным — намесьнікам Бога на зямлі і наступнікам таго, катораму Хрыстос паверыў найвышэйшую ўладу ў Царкве.

Ува ўсіх соцыяльных творах ёсьць неабходным аўторытэт; ён зьяўляецца рэгулятарам грамадзтваў, аб'адзіняючым і констытутыўным элемэнтам. А калі ідзе аб Царкву, дык аўторытэт гэты павінен мець унутраную, запраўдную непамыльнасьць, бо аўторытэт ў справе веры і абычаяў, падлеглы памылцы, быў-бы ня толькі ілюзорным, але проста дэструкцыйным. І дзеля гэтага той, катораму „ўсялякая ўлада ёсьць данаю на небе і на зямлі“, каторы кіруе лёсамі народаў і паасобнымі чалавечымі душамі, ахоўвае, умацняе і ўцьвярджае апосталаў і іх наступнікаў, каб нават і цень памылкі ня прыцьміў бліскучасьці Яго словаў і не замуціў паняцьця ідэалу жыцьця Ім пастаўленага. Дык не ад людзей паходзіць пасланьніцтва апосталаў, не на чалавечай мудрасьці ці асабістай сьвятасьці апіраецца павага

іхнае справы, а на сіле і моцы Таго, Які іх выслаў і „ёсьць з імі па ўсе вякі аж да скончаньня сьвету“. Пётры даручыў Хрыстос, — як кажа папа Боніфацы І, — „крэпасьць сьвяшчэннаслужэньня“ і непамыльную настаўніцкую катэдру, а іншым апосталам і іх наступнікам толькі ў саюзе, адзінстве і залежнасьці ад Пётры, улада і аўторытэт якога абадзіняе ўсіх людзей, ня гледзячы на расу, нацыянальнасьць ці мову.

На гэткім фундаманце, нават натуральна найсільнейшым і носячым у сабе зарод трываласьці, Хрыстос будуе Царкву настолькі дакладнае лучнасьці з Пётрай і Яго наступнікамі, што, — як праўдзіва заўважыў ужо Тамаш Морус, — „ня было ворага хрысьціянства, які-б не ненавідзеў Сьвятое Сталіцы, і ня было ворага Рыму, які-б раней ці пазьней не зрабіўся здраднікам рэлігіі“.

Наймацнейшае адзінства і заўсёднасьць Царквы, абапёртае на скале, з паважаньнем і любоўю аглядае ўвесь сьвет; кожны загад, а нават і жаданьне Намесьніка паднімаюць зараз-жа япіскапы ўсіх краёў, а разам з імі каталіцкае грамадзтва, і ніякая ахвяра не зьяўляецца завялікаю, кабператварыць у чын клічы і праграму Сьвятое Сталіцы. Могуць япіскапы розьніцца ў сваіх паглядах, ня маючых істотнае сувязі з асновамі веры і маральнасьці, бо ў рамах адзінства Царквы існуе шырокі маштаб вольнасьці і свабоды думкі, але там, дзе ідзе аб аснову, заўсёды яны ёсьць згоднымі і салідарнымі, і ўсе спробы выклікаць розьніцы і разгучнасьці, адкуль-бы яны не паходзілі, будуць няўдалымі спробамі, бясплодным змаганьнем і змарнованым высілкам.

Савецкай Расеі ўдалося разьбіць адзінства царквы (праваслаўнае), але не ўдаліся пробы з Каталіцкім Касьцёлам; раз за разам вяртаюцца да нас япіскапы і сьвяшчэньнікі-мучанікі, як жывыя сьведкі неперажытнасьці Касьцёлу і вялікае моцы Яго праўды і цудаў Божае ласкі, вечна дзейнае ў Касьцёле і яго вызнавальніках. Удалося паганскаму гітлерызму паняволіць пратэстанскую Царкву і падпарадкаваць яе сваім ідэям, але каталіцкія япіскапы заявілі выразна, што хутчэй зыйдуць у катакомбы, але-ж ня здрадзяць свайго пасланьніцтва ды, ня гледзячы на кары і рэпрэсіі, не перастануць прапаведваць праўды Госпадавай, якая, перατрываўшы гэтулькі гістарычных бураў, пераможа і перατрывае і гэты новачасны пароксызм сьвету, падняўшага бунт проці Божага закону.

Запраўды „сільны храм наш на скале“ па ўсе дні, бо абапёрты аб цудадзейную малітву Збаўцы, „каб былі адно“ і аб усемагутнае Яго абяцаньне: „І вось Я ёсьць з вамі па ўсе дні аж да скончаньня сьвету“.

*Кс. Д-р ЖЫГІМОНТ КОЗУБСКІ*

Прафэсар Варшаўскага Унівэрсытэту.

# Страшэнная галіта ў Савецкай Украіне.

З пэўнага часу ў розных эўропэйскіх і амэрыканскіх газэтах зьяўляюцца пісьмы або артыкулы аб моцна ўзросшым голадзе і страшэннай галіце ў Савецкай Украіне. Асновамі гэтых рэдкіх вестак аб жахлівым палажэньні Украіны, калісь найбагатшае мясцовасьці, служаць іншы раз пісьмы прыватных асобаў, а іншы раз справаздачы невялікіх лікам турыстаў, якія адважыліся зайсьці ў глыб гэтага вычарпанага краю.

Выгляд, які мае цяпер Украіна, не паддаецца ніякім найдзівачнейшым апісаньням. Сотні тысячаў памёршых, з прычыны галіты і голаду, жыхароў Украіны, пацьвярджаюць страхотлівае вядзеньне гаспадаркі чырвонымі ўладамі на Украіне.

У нармальны, г. знач. перадваенны, час Украіна вывозіла ў працягу году ад 5 цёх да 6-цёх мільёнаў тоннаў хлеба (адна тонна — каля 62 з палавінаю пудоў). Цяпер гэтая цыфра, дзякуючы поступу тэхнікі, магла-б тройчы павялічыцца. Тымчасам у гэтым «сьвірне Эўропы» людзі паміраюць з голаду. Вось пара выпісак з пісьмаў, прыведзеных у рапарце Саюзу Украінцаў за граніцаю (Federation Europeenne des Ukrainiens a l'etranger) у Брусэлі:

„Ужо два гады ямо лісьцьцё і кару з дрэваў. Сушым мякіну і робім з яе муку... Яда наша складаецца з шчаўю, вады і солі, карэньняў і кары... Пячэм хлеб з мякіны, зьмяшанае з пілавіньнем. Пацукі і мышы лічацца раскошнаю ядою... падліна адразу зьядаецца..."

Санітарныя варункі страшэнныя. Пануюць эпідэмічныя хваробы, як брушны тыфус і халера, якія страшэнна распаўсюджваюцца. У Стаўропалі былі нават выпадкі чумы. Некаторыя месты бываюць нападанымі бандамі галодных вясковых жыхароў. У бальніцах недахоп усялякіх найнеабходнейшых лякарстваў, а таксама і сродкаў дэзынфэкцыі. Нязьмерная колькасьць паразытаў ахапляе кожнага ўсюды, як у хатах, так і ў кожным грамадзкім памешканьні. Распараджэньнем уладаў, цераз пэўныя срокі часу, трамваі ўдзень на вуліцах затрымліваюцца. Пасажыры павінны групавацца і паддавацца дэзынфэкцыі. Але гэта мала памагае. У вёсках палажэньне яшчэ больш жахлівае. Паводле словаў аднаго чалавека, уцёкшага з савецкага „раю", улады пазваляюць хаваць памёршых толькі тады, калі трупы ўжо зусім раскладуцца, таму што людзі раскопваюць сьвежыя магілы і зьядаюць мрацоў. Гэткім чынам трупы па колькі тыдняў ляжаць у хатах, пашыраючы страшэнны смурод і заразу. Народ настолькі стомлены голадам, што зусім ня мае сілы капаць глыбокія магілы, і дзеля гэтага цэлы памёршых, закопаныя бяз трунаў, прысыпаныя толькі тонкім слоем

зямлі, пасьля вялікіх дажджоў, зьяўляюцца на паверхні зямлі. Абраз гэты страшэнны!

Сьмяротнасьць павялічваецца з кожным днём. Больш за ўсё памірае дзяцей, іншыя 14-цёх гадоў. Два чэхаславакі, працаваўшыя ў Саветах і нядаўна прыбыўшыя адтуль назад на бацькаўшчыну, расказваюць на бачынах аднае часопісі, што „на пляцох у Кіеве кожную ноч можна знайсьці 8—10 трупаў, распраненых жыхарамі гораду да голага цела... Штодня бываюць выпадкі затрыманьня трамваяў, з якіх выносяцца людзі, раптоўна памёршыя ад аташчаньня“.

Голад і галіта ня ўплываюць, як відаць, добра і на моральнасьць людзей, дзякуючы бальшавіцкім прынцыпам, пастаўленую на вельмі нізкі ровень. Няшчасныя маткі, у шмат якіх выпадках, кідаюць сваіх дзяцей, ня могучы глядзець на іх галодную сьмерць, або ўласнаручна забіваюць іх. У шмат якіх пісьмах і артыкулах успамінаецца аб зьяўленьні і павялічваньні людаедзтва. Малых дзяцей небясьпечна пушчаць адных на вуліцу, бо бывалі выпадкі зьяданьня іх.

Савецкі Урад зусім спакойна адносіцца да гэтага страшнага стану Украіны, не даючы нічым падмогі згаладнелым людзям. Наадварот, з вельмі шмат якіх распараджэньняў відаць, што бальшавіцкія ўлады проста сыстэматычна імкнуцца зьніштожыць усё жыхарства Украіны, лічачы яго „контр-рэвалюцыйным“, і замест яго расьсяліць новыя кадры бальшавіцкіх піянэраў.

Так ці іначай, палажэньне на Украіне страхотлівае і вымагае, каб цывілізованая і хрысьціянская Эўропа зьвярнула крыху больш увагі на няшчасны народ.

(КАП).

---

Леон Радзеёўскі.

# Пасеў праступленьня.

Паліцэйская хроніка нашых газэтаў без перарыву паведамляе аб рознага роду ашуканствах, растратах, якія аблічваюцца няраз на тоўстыя тысячы, ды іншых злоўжываньнях грашовых, зробленых інтэлігэнтнымі людзьмі. Нажаль, гэта пачынае ўжо нікога ня дзівіць. Таксама што раз дык часьцей чуем аб забойствах на эротычным падкладзе або з прычыны малжэнскіх непаразуменьняў, якія адслоньваюць моральную спарахнеласьць сярод асьвечаных. Нарэшце дайшлі мы і да рабункoвых забойстваў, зробленых інтэлігэнтамі.

Колькі гадоў назад Варшава была ўзбурана рабунковым забойствам на вуліцы Вакзальнай. Ахвяраю была служанка, а забойцаю бандыт „на урлёпе здровотным". Ад таго часу відаць значны поступ. Забіваньне служанак, дзеля рабунку кватэры, перастала ўжо быць манаполем грамадзкіх шумавінаў. Забойства служанкі Гарнцарж у Кракаве з'арганізавалі ўжо студэнты „Акадэміі Штук Пенкных" — Шэнкірчык і Бобржэцкі. У тым самым Кракаве ня так даўно нейкія Малішы, таксама з рабунковай мэтаю, забілі аж тры ахвяры.

Над усім гэтым варта затрымацца. Трэба знайсьці крыніцу зла.

Гэроі апошняга праступленьня ў Кракаве, як аказалася, перад спаўненьнем свайго ганебнага пастунку, весела гулялі ў таварыстве жанчын лёгкага аўторамэнту, а пасьля забойства спакойна паехалі сабе на дансінг у „Эсплянадзе" і там танцавалі да познае ночы.

Гэтая цынічная падробнасьць адслоньвае нам тую сумную праўду, што маторам усіх гэтых страхоцьцяў ёсьць жаданьне ўжыцьця „жыцьцёвых роскашаў", ня гледзячы на нішто. Прагавітасьць ужыцьця піхае на абкраданьне дзяржаўнага скарбу, магістрацкіх касаў, публічных інстытуцыяў і прыватных, кажаісьці красьць і рабаваць, і душыць няшчасную дзяўчыну, якая перашкаджала бандыцкай экспэдыцыі. Абы мець грошы на шынок, на дансінг, на эскапады з жанчынамі нядвузначнае кондуіты, якія ўжо ў кавярнях ды месцах начных забаваў гэтак перамяшаліся з дамамі з „таварыства", што часта трудна іх адрозьніць адных ад другіх.

Прагавітасьць ужыцьця падбухторвае ў нас цэлы рад дзейнікаў. Перш за ўсё спэцыфічная эротычная літэратура, пісаніна свойская і тлумачаная, ды кіданая на кніжны рынак жыдоўскімі выдаўцамі з Налевак або провінцыяльных дзіраў. Блізка што кожны плюгавы порнографічны раман, які паказваецца ў сьвет дзе б сабе ня было за граніцай, лакома прысвойваецца польшчынай. Аўтор, які любіць апісаньні праступленьняў і патолёгічных тыпаў, зараз-жа знайдзе выдаўца. Гэткая „літэратура" сыстэматычна выпірае прыгожую і чэсную кнігу. Смакі шырокае чытаючае публікі апрацоўваюцца ў раскладовых кірунках. Бяссорамныя тыднёвікі, якія высьмейваюць „адсталыя мяшчанскія абычаі" і выслаўляюць распусту ды культ нагасьці, зьяўляюцца дапаўненьнем гэтае работы.

Значную ролю адыгрываюць у гэтай акцыі і кіны. Якжа-ж часта яны кажуць аглядаць абразы з жыцьця міжнародных жулікаў і гультаёў, кокотак і бандытаў ды наагул збочнікаў. Праступленьне паднімаецца да раду нармальных жыцьцёвых зьявішчаў, найніжэйшыя чалавечыя інстынкты да добрых рысаў характару. Абцінаньне фільмаў цэнзураю

няшмат памагае, бо падбор іх залежыць ад фільмовых цэнтраў, якія знаходзяцца непадзельна ў руках нашае найпаступовейшае „меншасьці“.

Атмосфэра нашых местаў проста перасякнена хваравлівым эротызмам і тугою да скаштаваньня „бясклопатнага жыцьця“.

Гэтым лятуценьням становяцца ўпоперак дарогі матарыяльныя варункі. Але на недахоп грошай знайдуцца спосабы. Аб тым, як сабе „радзяць“ людзі ў падобных акалічнасьцях, кожны можа даведацца з маляўнічых апісаньняў найрознароднейшых праступленьняў, падаваных брукоўцамі, асабліва пяцёхграшоўкамі. Там заўсёды знайдзецца нешта для кандыдата на растратчыка і ашуканца ды будучага забойцу. Ізноў-жа, як забіваць, труціць, красьць ды фальшаваць грошы павучыць найдакладней, з фаховым веданьнем справы, галоўны орган дэмаралізацыі „Tajny Detektyw“, а таксама рад газэтаў, аблічаных на сэнсацыю. Дзеля таго, каб бяскарна вясьці праступную сэнсацыю — хапае таго, што яны зьяўляюцца „апалітычнымі“.

**Каб не загаварыла ў людзях сумленьне, каб ня стала на перашкодзе думка аб Богу і моральных законах, аб гэтым клапоцяцца бязбожніцкія газэткі: „Wolnomyśliciel Polski“, „Racjonalista“ і розныя „Błyski“.** Калі Бог ня істнуе, калі рэлігія ёсьць „папоўскім ашуканствам“, — дык чаго-ж цэрамоніцца, — гэта-ж раз толькі жыве чалавек? Паўінтэлігэнты і інтэлігэнты з слабою воляю лёгка пападаюць у гэтае сіло. Капля па каплі сочыцца ў душу іх атрута. А капля і камень выдзяўбае. У радзе судовых працэсаў сьцьверджаны ўжо заслугі „Tajnego Detektywa“ ў гадаваньні асьпірантаў да вяроўкі. Гэта ня ёсьць выпадкам, што якраз у Кракаве, дзе расьсеўся гэты журнальчык, зьявіўся Олейнічак, Малішы, Шэнкірчык і Бобржэцкі.

На нічоганяробленьне прэсавае цэнзуры ў Польшчы наракаць ня можам. Яна вельмі чулая, калі ідзе аб палітычныя пытаньні, часта сваю старанлівасьць пасоўвае да пераўвялічэньня. **А чаму-ж яна гэтак мягкая для літэратуры порнографічнай, крымінальнай і бязбожніцкай? Бо рэчжа-ж відочная, што прэса, якая палюе на сэнсацыю і падважвае падставы публічнае моральнасьці, дзейнічае на шкоду грамадзянства і дзяржавы. Моральнае рассупоненьне — гэта найбольшы вораг арганізацыі дзяржавы і яе сілы.**

Калі сяньняшнія прэсавыя правілы і карны закон зьяўляюцца ў барацьбе з надужываньнямі друкованага слова недахопнымі, дык хіба-ж нішто не стаіць на перашкодзе новэлізацыі правілаў і закону ў духу ачышчэньня прэсы ад гніючых скулаў. Гэта зусім ня будзе замахам на палітычную свабоду слова, але барацьбою з публічнымі пагоршальнікамі.

Разумеем, урэшце, што пасьля гадоў пладатворчае дзейнасьці „Tajnych Detektywów“, порнографаў, бязбожнікаў і „рэфарматараў“ абычаяў, — адных толькі паліцэйскіх забаронаў мала. Дык Дзяржава, у імя ўласнага інтарэсу, павінна супрацоўнічаць з Царквою ў справе ўзнаўленьня моральнага ладу. Бо Царква не ад сягоньня борацца з злом, не ад сягоньня зьвяртае ўвагу на шырокае згоршаньне.

Нажаль, ня гледзячы на аўторытэтныя запэўненьні зьверху, — Царква на практыцы сустрачае труднасьці ў уплываньні на выхаваньне моладзі. Там і сям зусім апалітычная дзейнасьць Каталіцкае Акцыі бярэцца лёкальнымі ўладамі пад падазрэньне, як „акцыя палітычная“. А якраз Каталіцкая Акцыя і ёсьць найпэўнейшым процідзеяньнем дэморалізацыі, а рэлігійнае выхаваньне моладзі ёсьць зарукаю прыбаўленьня дзяржаве прыкладных грамадзян.

Пара ўжо барацьбу з дэморалізацыяй пачаць сур‘ёзна, не абмяжоўваючыся толькі паліатывамі і караньнем ахвяраў пасеву праступленьня. Трэба пацікавіцца бліжэй і сейбітамі.

**(КАП).**

---

# Шырокія і глыбокія фундамэнты.

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны невялічкі беларускі артыкул у „Другу“ — часопісі Папскае Усходняе Сэмінарыі ў Дубне. Часопісь адбіваецца на памнажальніку, зьмяшчаючы артыкулы ў некалькіх мовах пад рэдакцыяй а. Іоана Гэрмацюка. Беларускі артыкул часопісі перадрукоўваем да ведама нашых чытачоў.
Рэд.

Дзела злучэньня Ўсходу з Заходам — прыгорненьня ізноў, пад крыльля Адзінай Маці Царквы, запусьціўшыхся калісь сыноў Усходу на раздарожжа ёсьць сяньня найдаражэйшай мэтай жыцьця, для пануючага нам сучасна сьв. Айца. За сваю працу на гэтай ніве здабывае ў сучаснасьці імя Вялікага Пастыра Уніі.

А чаму? Ці-ж папярэднікі Яго не працавалі ў гэтым напрамку — не гарэла ў іх сэрцы любоў да Ўсходу? А Ўсходняя Конгрэгацыя, усходнія сэмінарыі для розных народаў, Усходні Інстытут, энцыклікі, дэкрэты і пропаганда справы ўсходняй—то не праца папаў Піуса IX, Лявона XIII, Піуса X і Бэнэдыкта XV, каторы ўжо канаючы, усё дапытываўся ці прышлі пашпарты, каб выслаць дэлегацыю ў Маскву.

Але-ж гэта ўсё праўда! Ці хто гэтаму пярэча? А ўсёж-такі ніводзін з іх так не заслужыўся для гэтага дзела, як сучасны сьв. Айцец. Зусім ясна чаму. Бо сучасны сьв. Айцец адзін дзесяць разоў больш зрабіў для Уніі, як ўсе папярэднікі разам. Да Яго понтыфікату праца унійная дзе-нядзе толькі значылася па сьвеце (Расея, Баўгарыя) — толькі прарастала зярнё, укіненае папярэднікамі ў ніву Божую, а цяпер? Які размах працы унійнай! Сяньня полем працы гэтае ёсьць не адна Эўропа (Баўгарыя, Румынія, Югаславія, Бэльгія і інш. дзяржавы), але і Азія (Кітай, Манджурыя), Афрыка і заморская Амэрыка.

Праца ідзе больш у напрамку об'ектыўнага, абапольнага зразуменьня і запазнаньня Ўсходу з Заходам, каб прыгатаваць цьвёрды грунт, на якім можна было-б паставіць вечны дом адзінства.

Над гэтым працуюць розныя ўсходнія таварыствы, напрыклад Кірылы і Мэтодага, І. Златавуснага, сьв. Іозафата і іншыя, асобныя факультэты пры унівэрсытэтах, конфэрэнцыі штогодня (Любляна, Велеград, Прага, Пінск...), асобныя аддзелы на міжнародных Эўхарыстычных Конгрэсах, розныя часопісі, больш як 80 бульляў ды ўсялякіх дэкрэтаў, багата выпасажаны Усходні Інстытут, а розныя сэмінарыі па розных кутках сьвету прыгатаўляюць барцоў за справу аб'яднаньня. Да таго многа законаў або прынамся ўсходніх аддзелаў, як Домініканцаў, Капуцынаў, Езуітаў, Мар'янаў, Рэдэмпторыстаў і іншых працуе на гэтай ніве.

А што-ж гэта ўжо канец працы унійнае? Але дзе-ж там! Ня толькі не канец, але гэта ёсьць яшчэ толькі пачатак развою руху унійнага — пачатак падгатоўкі цьвёрдага грунту пад будоўлю Уніі.

Пропасьці, якая рабілася праз дзесяць вякоў паміж Усходам і Заходам, хіба ніхто ня зможа засыпаць у працягу якіх 10-цёх гадоў. І проста сьмешнае пытаньне „дзе-ж вынікі працы"?

— Як гэта? Ужо цяпер вынікі працы?

Хто сяньня сее, той хіба цудам толькі патрапіць за пару нядзель ужо сабраць плод!

З размаху прыгатаваньняў да зьдзейсьняньня волі Хрыста Вялікага Пастыра бачым, як шырокія і глыбокія фундамэнты закладае пад гігантычны Дом Божы, але да пабудаваньня патрэба шмат часу і трудоў.

Дамагаюцца ўжо цяпер буйных рэзультатаў, калі дзела Уніі, як улучна пісала адна газэта некаталіцкая ў Індыі пару гадоў таму назад, разложана Апостальскім Пасадам не на 10 ці 20 гадоў, але на стагодзьдзе.

**В. М.**

# Наш адказ

1. У Варшаўскім „Слове“ № 29, надрукованы артыкул: „Къ сближенію Православной и Англиканской Церквей“, у якім гаворыцца аб вельмі прыяцельскіх адносінах паміж польскім праваслаўем і англіканскаю царквою. Аб гэтых адносінах мы ўжо даўно ведаем. У вышэй прыведзеным артыкуле ідзе гутарка аб пасылцы маладых праваслаўных людзей у Англію, каб дайсьці да „дасканальнасьці“ ў багаслоўі. Для гэтай мэты спадзяецца Царкоўная Улада атрымаць матар'яльную падмогу ад Дзяржаўнае Ўлады. У канцы артыкулу чытаем: „Разам з тым Сьвяшчэнны Сынод паручыў Яго Блажэнству, калі яму падабаецца, паводле часу і абставін, зрабіць шагі дзеля выясьненьня, пасьля паразуменьня з дзяржаўнымі школьнымі ўладамі, магчымасьці камандараваньня ў Англію маладых праваслаўных багасловаў з Польшчы дзеля навуковага ўдасканаленьня ў Колледжы Сьв. Сьцяпана ў Оксфорде“.

Ну, што-ж тут дзіўнага? Ня будзе дзіўным, калі школьныя ўлады дадуць грошай, хай сабе даюць, калі многа маюць. Але для нас неяк дзіўным здаецца, што праваслаўныя з Польшчы шукаюць удасканаленьня свае багаслоўскае веды ў... пратэстантаў. Добра кажа лацінская прыказка: „Similis simili gaudet“ — Які сам, такога і шукае. Гэта для нас, уніятаў, або інакш гаворачы для нас, праваслаўных, злучаных з Апостальскім Пасадам, што трымаемся веры праўдзівае, веры першых стагодзьдзяў, для нас, — кажу, — гэтакае збліжэньне зьяўляецца доказам, што так званая „праваслаўная царква“ у Польшчы носіць толькі назоў „праваслаўнай“ бяз зьместу, бо ў запраўднасьці адступіла ад праўды і зрабілася пратэстанскаю. Калі будуць „удасканальвацца“ ў пратэстанскім Калледжы (сэмінарыі), дык і рэшту загубяць з таго, што яшчэ засталося ад хрысьціянства.

---

2. З прычыны назначэньня а. В. Арцем'ева настаяцелем Луцкага грэка-каталіцкага прыходу і яго багаслужэньня, у часе якога ён не ўспамінаў Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага, Варшаўскае „Слово“ (№ 31) напісала вялікі перадавы артыкул, пад загалоўкам: „Новый курсъ въ „уніатской акціи“.

„Слово“ вельмі многа піша аб „уніатской акціи“, а вельмі мала знае ды разумее гэту акцыю. Чытаючы гэты артыкул, думаеш сабе, што гэта яны, з месяца зваліліся, ці што?! Ня ведаюць, што уніяты за межамі Галіцыі не падлягалі ды не падлягаюць юрысдыкцыі Мітрапаліта Шэптыцкага?

Падумайце, што варты артыкул, аснованы на такой грубой ігнарацыі, што варта аргумэнтацыя аб новым шляху ў унійнай працы? Роўным лікам нічога — гэта чыстае туманеньне галоў. Аднак-жа ў нашыя крызысовыя часы за такое туманеньне грошы плацяць.

---

3. Яшчэ на адзін артыкул мушу зьвярнуць увагу: „Грозныя тучи на Волыни“ („Слово“ № 34). Якісьці валынскі карэспондэнт падае, што на Валынь ужо прыехала (мо‘ нават і бачыў?) 40 уніяцкіх місіянэраў. „Слово“ зараз-жа друкуе вялікі артыкул. Нават не дадумваецца аўтор артыкулу, што вестка аб 40 місіянэрах з пальца высмактана. Гэта выдумка для нас ня шкодная, напалохала мо‘ толькі баязьлівых кіраўнікоў праваслаўя ў Польшчы. Зьвяртаю толькі дзеля таго ўвагу паважаных чытачоў на гэты ня вельмі разумны артыкул, каб паказаць, якое праўдзівае слова можна знайсьці ў „Слове“. Салаўёў басьнямі ня кормяць, а тым больш не выпадае карміць людзей.

*Злучэнец.*



**Іконастас капліцы ўсходняга абраду ў Нарве ў Эстоніі.**

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Альбэртын.** 15—20 чэрвеня г. г. кляштар а.а. Езуітаў у Альбэртыне меў шчасьце гасьціць у сябе Я. П. Уладыку Мікалая Чарнэцкага, які высьвяціў 2 гадунцоў Таварыства Ісусавага—Багаміла Горачэка і Язэпа Ольшра у сан іподыякана. Абодва належаць да чэскае народнасьці, адбылі навіцыят у Альбэртыне, скончылі філёзофічныя навукі ў Кракаве, а цяпер пачнуць навуку багаслоўя ў Любліне.

У нядзелю 17 чэрвеня Я. Пр. Япіскап Мікалай пасьвяціў у сьвяшчэньнікі а. Іоана Чорнака, гадунца апошняга курсу багаслоўя ў Любліне.

Новапасьвячаным рэдакцыя „Да Злучэньня" складае найшчырэйшыя пажаданьні багаслаўленьня Божага.

**Сынковічы.** 24 чэрвеня с. г. новапасьвячаны а. Іоан Чорнак адправіў у Сынковічах першую ўрачыстую Сьв. Літургію. Адпаведнае да моманту казаньне сказаў а. А. Неманцэвіч, сынковіцкі настаяцель. Пяяў мясцовы хор пад праваю рэгента п. Ул. Лявіцкага. Пасьля Сьв. Літургіі усе прысутныя падышлі пад багаслаўленьне новага сьвяшчэнькіка, які на памятку раздаваў іконкі.

**Дубно.** Закончыліся шчасьліва заняткі ў Папскай Усходняй Сэмінарыі. Гэты год Сэмінарыя можа залічыць да найшчасьлівейшых, бо выпусьціла ўжо на ніву Божую 4 новых місіянэраў-сьвяшчэньнікаў, адпаведна да гэтае важнае працы падгатаваных.

Наплываюць просьбы з усіх бакоў аб прыняцьці да Сэмінарыі. Няма магчымасьці ўсіх прыняць, бо ўжо не хапае месца. Найбольш пажаданымі зьяўляюцца кандыдаты з беларускіх асяродкаў, якія ўжо скончылі гімназію.

**Варшава (Кап).** Галоўная Рада Аб'яднаньня Захаваўчых палітычных арганізацыяў у справе рэлігійнага выхаваньня. У апошнія дні мінулага мая месяца ў Варшаве засядала Галоўная Рада Аб'яднаньня Палітычных Захаваўчых Арганізацыяў, якія зьяўляюцца правым крылом ББВР. Галоўная Рада сярод сваіх пастановаў парушыла таксама справу асьветнае палітыкі. Па пытаньню гэтаму прынята наступная пастанова:

„Прызнаючы абавязак Ураду ў надаваньні адпаведнага кірунку выхаваньню школьнае моладзі, Галоўная Рада сьцьвярджае, што ў гэтым пытаньні павінны праводзіцца гэткія прынцыпы:

а) згодна з воляю вялізарнае большасьці насяленьня і згодна з абавязваючымі законамі павінен безварункова

праводзіцца прынцып рэлігійнага выхаваньня моладзі, які дасюль мясцовымі школьнымі ўладамі не заўсёды быў праводжаны, а ўсялякая антырэлігійная акцыя на школьным абшары павінна якнайэргічней перацінацца;

б) школьнае выхаваньне павінна быць дапаўненьнем і далейшым працягам сямейнага выхаваньня;

в) школьнае выхаваньне павінна мець на мэце паглыбленьне адносін моладзі да Дзяржавы, аднак-жа з выключэньнем якое-небудзь палітычнае праграмы;

г) таварыствы і арганізацыі школьнае моладзі могуць мець толькі характар рэлігійны, асьветны і культурны, з выключэньнем усялякае палітыкі;

д) прызнаючы патрэбу і значэньне прыватнага школьніцтва для выхаваньня маладога пакаленьня, Галоўная Рада лічыць неабходным абкружэньне гэтага школьніцтва належнаю апекаю з боку Дзяржавы.

Апрача таго Галоўная Рада прызнае неабходным шчыльнае супрацоўніцтва Ураду з акадэміцкімі школамі, а таксама заспакоеньне адносін паміж акадэміцкаю моладзьдзю. Гэта апошняя мэта можа быць асягнена, на думку Галоўнае Рады, толькі праз дзейнічаньне на моладзь ідэйных дзейнікаў, а не праз націск з боку адміністрацыйных уладаў.“

**Варшава (Кап). Нота Я. Э. а. Апостальскага Нунцыя да Польскага Ураду.** 17-га чэрвеня сёлетняга году Я. Э. а. Апостальскі Нунцы ў Варшаве нотыфікаваў п. Міністру заграніčных справаў атрыманую з даручэньня сьв. Айца кондоленцыю Яго Сьвяцейшасьці Папы Піуса XI для Польскага Ураду з аказіі балючае страты, якую мела польская дзяржава па прычыне нікчэмнага замаху, споўненага на асобе неадшкадованае памяці міністра ўнутраных справаў сьв. памяці Браніслава Перацкага.

**Вільня (Кап). Вялікія ўрачыстасьці ўва ўгодкі каранацыі Цудоўнага Абраза Маці Божае Вострабрамскае.** У дні 1, 2, 3 і 4 ліпня сёл. году (паводле новага стылю) адбыліся вялікія ўрачыстасьці сёмых угодкаў каранацыі Цудоўнага Абраза Найсьвяцейшае Дзевы Вострабрамскае.

**Варшава (Кап). Скон б. Адміністратара магілёўскае Архіепархіі.** 28-га траўня с. г. пасьля доўгіх і цяжкіх цярпеньняў, прыняўшы Сьв. Тайны, памёр сьв. памяці пралат а. Станіслаў Пшырэмбэль, б. апостальскі адміністратар магілёўскае архіепархіі, у веку 65 гадоў, духоўніцтва 41 год. Доўгія гады нябожчык быў настаяцелем у Царскім Сяле, а пасьля арышту архіяпіскапа Цепляка быў апостальскім адміністратарам або кіраўніком разьлеглае архіепархіі. На

гэтым становішчы выстаўлены быў на прасьледаваньні і зьдзекі савецкае ўлады. У Польшу а. Пшырэмбэль вярнуўся два гады назад пры абмене вязьнямі.



Іконастас капліцы Дубненскай Папскай Сэмінарыі.



Гадунцы Дубненскай Папскай Сэмінарыі з Я. Пр. Япіскапам Мікалаем Чарнэцкім.

Варшава (Кап). Масонская публікацыя на польскай мове. Нядаўна выйшла ў сьвет кніжка пад назовам: „Wolnomularstwo w świetle encyklopedji. Wypisy." Кніжка бяз прозь-

вішча аўтара і выдаўца, бяз'іменная, таму што таямнічасьць ёсьць свойскаю і галоўнаю рысаю масонскае дзейнасьці. Гэтай публікацыі прабавалі на пачатку прыдаць выгляды об'ектывізму, прыводзячы уступы аб масонэрыі з царкоўнае гісторыі кс. Архугоўскага і з царкоўнае энцыклёпэдыі, выданае кс. Хэлміцкім. Аднак-жа далей ідуць выняткі з масонскіх крыніцаў, або з крыніцаў, прыхільных да масонэрыі, як напр. „Grande Encyklopedie, Meyers Lexikon, Der Grosse Brockhaus, Encyklopedia Americana" і г. д.

Ад'емнае ўражаньне аб дзейнасьці масонэрыі спачатку, на падставе гэткага ўлажэньня, хутка заціраецца і пачынаецца паступова выслаўляньне вольнамулярства. Даведваемся, што масонэрыя ёсьць інстытуцыяй „філёнтропічнай," „гуманітарнай," „ня борацца з рэлігіяй" і інш. Аб пачынаньнях і палітычных змовах масонэрыі, аб падтрымліваньні фінансаваньні ёю пераваротных і рэвалюцыйных элемэнтаў, аб неумалімай барацьбе з рэлігіяй, аб афэрах у стылі Ставіскага,—ані слова. Гэтак прадстаўляецца „об'ектывізм" гэтае масонскае публікацыі ў польскай мове. Кніжка гэтая, выданая nota bene на люксусовай паперы і танная (найвідочней за дыспозыцыйныя фонды масонэрыі), мае на мэце рэабілітацыю дзейнасьці вольнамулярства, скампрамітованага апошнімі фінансавымі скандаламі ў Францыі і праступленьнем, зробленым на асобе судзьдзі Прэнса.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

Лёндан (Кап). Новы дэкрэт Сталіна аб барацьбе з рэлігіяй у Саветах. Як паведамляюць ангельскія і скандынаўскія газэты, Сталін і некалькі іншых савецкіх саноўнікаў падпісалі дэкрэт, на моцы якога паняцьце Бога мае быць выключана з Расеі ў працягу найбліжэйшых трох гадоў. „На 1-га траўня 1937 году,—кажа гэтае распараджэньне,—тэрыторыя Савецкага Саюзу мае быць звольненай ад усякага Бога. Выабражэньне Бога, каторае, як сярэднявечнае паняцьце, дае магчымасьць прыгнятаньня работнікаў, павінна быць выгнана з межаў савецкае дзяржавы." У працягу першага году гэтае „вайны з Богам" маюць быць скасованымі ўсялякія рэлігійныя выхаваўчыя заклады, а сябры рэлігійных таварыстваў і саюзаў будуць пазбаўлены картак на прадукты, дык значыцца будуць засуджаны на галодную сьмерць. У другім годзе вайны акцыя бязбожнікаў скіруецца проці рэлігійнае атмосфэры сямейнага жыцьця, якому маюць быць прышчэпленымі прынцыпы „разумовага атэізму."

Дзеля гэтага хрысьціянства ў Расеі чакае новы пэрыяд балючых прасьледаваньняў і дасьведчаньняў, але павадыры бязбожнага камунізму не здабудуць перамогі ў гэтай барацьбе з Ісусам Хрыстом, як не здабыло яе паганства рым-

скіх цэзараў Часы прасьледаваньняў і мукаў мінуць, а з ахвярнага пасеву крыві народзіцца новы трыумф адвечнае Праўды і Справядлівасьці.

Лёндан (Кап). Расейскія лясы служаць новачаснымі катакомбамі для хрысьціян. Барбарскае, пляновае, шмат гадоў праводжанае прасьледаваньне хрысьціян у Савецкай Расеі прыеяло да таго, што сапхнутае ў пад'зямельле рэлігійнае жыцьцё пачало шукаць сабе новых, датарнованых да акалічнасьцяў, формаў. Ангельскія падарожнікі, якія мелі магчымасьць бліжэй падыйсьці да жыхароў расейскае вёскі, сьцьвярджаюць, што цяпер у гэтым няшчасным краі паўстала як-бы новая кляса духоўнікаў і веравызнаўцаў. У глыбі расейскіх лясоў, якія, дзякуючы сваёй велічы, зьяўляюцца добрымі месцамі схову, жывуць папы, а побач з імі студэнты і іншыя прадстаўнікі інтэлігэнцыі, якія, збрыдзіўшыся загадваным дзяржаваю ідалапаклоньніцкім культам матэрыі і машыны, надаюць глыбокай рэлігійнай тузе народу сваеасаблівы кірунак. Начамі яны гавораць каля крыніцаў, ручаёў і пад дрэвамі пропаведзі аб мучаніцкай сьмерці Збаўцы, аб жыцьці вечным, аб ласцы Усемагутнага Бога, багаслаўляюць новыя малжэнскія саюзы і даюць апошняе пацяшэньне паміраючым. Бальшавіцкія ўлады ня шмат могуць зрабіць проці работнікаў, сялян і інтэлігэнтаў, якія натаўпамі сьпяшаюцца на гэткія зборкі і набажэнствы. Паводле думак обсэрватараў гэтых зьявішчаў, над змучанаю „бязбожнаю" Расеяй плыве хваля рэлігійнае тугі і адраджэньня веры.

Нью-Іорк (Кап). Першы каталіцкі духоўнік з слаўнага племя Ірокэзаў. Вядомыя сярод паўночна-амэрыканскіх Індыйцаў сваімі здольнасьцямі Ірокэзы з нядаўнага часу маюць першага каталіцкага духоўніка туземнага паходжаньня.

Вена (Кап). Стыгматычка Тэрэза Нэйман. „Reichspost" у корэспондэнцыі з Konnersreuth паведамляе, што ў справе Тэрэзы Нэйман не адбылося ніякіх істотных зьменаў. Экстазы і візіі бываюць далей з тыдня на тыдзень, пры чым даецца заўважыць як-бы некаторае ўзмацненьне гэтых зьявішчаў. Поўнае ўстрыманьне Тэрэзы ад ежы і піцьця цягнецца ўжо ад верасьня 1927 году, значыцца сем гадоў, і ніколі ня было нарушана. На жаданьне япіскапскае курыі у Рэгэнсбургу, адведваньні стыгматычкі дапушчаюцца толькі па спэцыяльных пісаных пазваленьнях царкоўных уладаў.

Парыж (Кап). Вялікая лічба французскіх місіянэраў. Паводле найнавейшае статыстыкі, цяпер працуе ў заграничных місіях 4524 сьвяшчэньнікі і 1883 браты-манахі францускае нацыянальнасьці. Гэта запраўды вялікая лічба.

Ватыкан (Кап). Тыдзень малітваў і студыяў хрысьціянскага Усходу. Ад 2-га да 9-га верасьня сёлетняга году адбудзецца ў Вэнэцыі тыдзень малітваў і студыяў, пасьвя-

чаных Хрысьціянскаму Усходу. У сувязі з гэтым кардынал Пачэльлі выслаў ад імя сьв. Айца пісьмо да кардынала Ляфонтэна, вэнэцыянскага патрыярха, у якім Папа заахвочвае да адбыцьця гэтага Тыдня, багаслаўляючы яго працу. Адначасна сьв. Айцец выказвае ў пісьме задаволеньне з таго, што месцам Тыдня выбрана Вэнэцыя, якая дзеля гэтага мае спэцыяльны тытул па прычыне сваіх гістарычных адносін з Усходам і барацьбы ў абароне сьвятое веры.

Братыслава (Кап). Юбілей Славацкага павадыра. Ад 5-га да 8-га гэтага ліпня (нов. ст.) Славацкі народ сьвяткаваў семдзесятгадовы юбілей свайго духоўнага павадыра кс. інфулата Андрэя Глінкі. Урачыстасьці адбыліся ў Рузэмбэроку, дзе юбіляр зьяўляецца настаяцелем. Кс. Глінка пасьвяціў усё сваё жыцьцё Славацкаму народу, будзячы ў ім каталіцкае і нацыянальнае усьведамленьне. Не зламалі яго доўгія гады вэнгерскага астрогу. Ня гледзячы на закончаньне сёмага дзесятка веку, кс. Глінка стаіць на чале палітычнае арганізацыі і культурна-прасьветнага руху Каталіцкіх Славакаў, як старшыня Народнае Партыі, Славацкага Арла, выдавецкае інстытуцыі сьв. Войцеха і шмат якіх іншых арганізацыяў. Кс. Глінка ёсьць духоўным павадыром усіх пачынаньняў, якія маюць на мэце падняцьце Славацкага народу і запэўненьне яму належнага становішча ў Чэхаславацкай Рэспублiцы.

Парыж (Кап). Гэройская ахвярнасьць місіянэра. Эльзасчык а. Вінтц з місійнае конгрэгацыі Сьв. Духа, працуючы сярод пракажаных у Сэнэгалі (Афрыка), сам заразіўся праказаю ў 1929 годзе. Перавезены на бацькаўшчыну, пасьля доўгага карантыну, ізоляваны ад знаёмых і сваякоў, вылячыўся зусім. Аднак-жа нядаўна надыйшла вестка, што на Антыльлях (у ля-Дэзорада) памёр туземны душпастыр бедных пракажаных. Айц. Вінтц, ня гледзячы на свае 60 гадоў і нядаўна перажытую хваробу, упрасіў сваіх Начальнікаў, каб пазволілі яму выехаць на Антыльлі і абняць пост у ля-Дэзорада. Гэткі гэроізм ахвярнасьці можа даць толькі глыбокая вера і ласка Божая.

Мадрыд (Кап). Навярненьне гішпанскага камуніста. Нязвычайнае ўражаньне выклікала сярод гішпанскага грамадзянства апублікованае апошнім часам адкрытае пісьмо аднаго з найвыдатнейшых камуністычных дзеячоў у Гішпаніі —Энрыкэ Маторра. У гэтым пісьме Маторра, нядаўны кіраўнік цэнтральнага камітэту маладых гішпанскіх камуністаў, зьвяртаецца да сваіх былых таварышоў з заявою, што, пасьля глыбокае надумы, зракаецца сваіх памылак моладасьці, сеяньня клясавае ненавісьці і безрэлігійнасьці, якія зьяўляюцца для народу найбольшым ліхам, дзелячы яго на варожыя лягеры і кідаючы ў галіту. — Колькі-ж энэргіі, піша Маторра, — колькі ахвяраў прынесена гэтым бажком.

Тымчасам адзінаю праўдаю ёсьць Ісус Хрыстос, які ёсьць любоўю ў адносінах да ўсіх і нават ворагаў. У канцы свайго пісьма Маторра зьвяртаецца да сваіх былых таварышоў, каб і яны ўзыйшлі на тую самую дарогу, на якую ён, пасьля развагі, ўзышоў. Цяпер Маторра супрацоўнічае ў сындыкаце гішпанскіх каталіцкіх работнікаў.

**Рым (Кап). Італьянская веравызнаўчая статыстыка.** Паводле афіцыяльных статыстычных дадзеных, 99 проц. італьянскага насяленьня — каталікі. Лік асобаў, якія не належаць да Каталіцкае Царквы абыймае агулам 157.002, з чаго 49.056 — чужаземцаў. У гэтым ліку эвангелікаў — 83.618 (чужаземцаў 33881), жыдоў — 47825 (чуж. 8713), грэцкіх схізматыкаў 6801 (чуж. 4220), іншых веравызнаньняў — 1475, чужаземцаў (1182), нарэшце безрэлігійных 17.283 (чуж. 1552).

**Фрыбург-Швайцарскі (Кап). Навярненьне японскага дыплёмата.** У капліцы вільлі Сэн-Жан у Фрыбургу адбыўся хрост і прыймо да Каталіцкае Царквы п. Кавамура, сэкрэтара японскае легацыі ў Бэрне. Хросным айцом п. Кавамура, які на сьв. Хрышчэньні прыняў імя Францішка, быў нававысьвячаны (на Вялікдзень) на сьвяшчэньніка п. праф. Павал Хіхіда, навернены японец. Францішак Кавамура, 33-х гадоў, скончыў унівэрсытэт у Токіо. Назначаны ў мінулым годзе сэкрэтаром японскае легацыі ў Швайцарыі, пражывае ў Бэрне ўжо паўгода, жанаты ён з каталічкаю, выхаванкаю манастырскае школы ў Токіо. Францішак Кавамура пастанавіў кінуць дыплёматычную службу і ўсе свае сілы пасьвяціць на пашырэньне каталіцызму ў Японіі; з гэтай мэтаю ён замерваецца ў найбліжэйшым часе вярнуцца на бацькаўшчыну і аддацца Хрыстоваму апостальству.

**Ватыкан (Кап). Гішпанскі Амбасадар у Ватыкане.** Прыбыўшы ў першыя дні чэрвеня сёл. году ў Рым міністар Піта Ромэро, надзвычайны амбасадар гішпанскага ўраду пры Сьв. Сталіцы, зважыў 8-га чэрвеня візыт дзяржаўнаму сэкрэтару кардыналу, з якім адбыў доўгую нараду. Задачаю міністра Піта Ромэро, ёсьць, як ведама, зрабіць паразуменьне з Сьв. Сталіцаю і ўстабілізаваць добрыя адносіны яе з Гішпаніяй. Ня выключана, што перагаворы давядуць да падпісаньня конкордату.

**Рым (Кап). Мусоліні і Новы Завет.** Мусоліні разаслаў усім дырэктаром і рэктаром школаў у Італіі цыркуляр, у якім з націскам радзіць чытаньне Новага Завету і тлумачэньне навук, у ім зьмешчаных. У цыркуляры гэтым Мусоліні кажа, паміж іншым: „Усё настаўніцтва павінна чытаць Новы Завет і абʻясьняць яго даступным спосабам вучнёўскай моладзі, дбаючы пры гэтым аб тое, каб дзеці грунтоўна азнаёміліся з яго найпрыгажэйшымі месцамі. Новы

Завет павінен быць у кожнай бібліятэцы і чытальні, бо гэта ёсьць кніга, якая будзе вечна жывою і новаю."

Рыга (Кап). У Маскве ізноў маюць быць разабранымі дзьве Цэрквы. З Масквы паведамляюць, што вядомая царква сьв. Мікалая недалёка ад Крэмля, будзе ў найбліжэйшым часе разабрана. Таксама і другая царква (якая належыць да Афонскага манастыра ў Грэцыі) чакае падобнага лёсу.

Бэрлін (Кап). Спраставаньне тэндэнцыйных вестак. Шмат разоў была распаўсюджвана вестка, — апошнім часам паўтарыў яе таксама і агульнадзяржаўны кіраўнік „Моладзі Гітлера" Бальдур фон-Шырах, — што лік сяброў арганізованае каталіцкае моладзі ў Нямеччыне ўпаў з 2—3 мільёнаў да 400.000. У сувязі з гэтым з боку аўторытэтных царкоўных дзейнікаў апублікована выясьненьне, што арганізованая каталіцкая моладзь у Нямеччыне, ува ўсіх сваіх саюзах і таварыствах, ніколі не перавысіла лічбы 1.480.000. Цяпер лічба сяброў гэтае моладзі раўняецца 1.100.000.

Вашынгтон (Кап). Павялічэньне навярненьняў у Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі. Паводле даных „Official Catholic Directory 1934" у працягу мінулага 1933 году на лона Каталіцкае Царквы вярнулася ў Злучаных Паўночна-Амэрыканскіх Штатах агулам 49.181 дарослая асоба. Цыфра гэтая на 8.955 асобаў большая, як у папярэднім годзе.

Лёндан (Кап). Вялікая сьвятая на паштовых марках у Англіі. Ангельская пошта выпусьціла новыя паштовыя. маркі цаною ў паўкароны, на якіх прадстаўлена сьв. Алена, маці імпэратара Кастантына. Як ведама, сьв. Алена была доўгі час патронкаю вострава сьв. Алены, адкрытага ў 1502 г. Партугальцамі, пасьля адступленага Голяндыі, а пазьней належачага да даміміяў Велікабрытаніі. Цяпер Англія сьвяткуе 100-тныя ўгодкі ўладаньня гэтым востравам.

Абраз сьв. Алены на брытанскіх марках узяты з мэдальёну, які знаходзіцца ў капліцы яе імя ў базыліцы Сьвятога Гробу ў Ерусаліме. Капліцу гэтую ўфундавала Сьвятая ў часе пілігрымства ў Палестыну, адбытага ў познай старасьці.

Ватыкан (Кап). Ватыканскі орган аб забойстве. Падаўшы тэлеграфную вестку аб забойстве сьв. пам. міністра Браніслава Перацкага, ватыканская газэта зазначыла, што забойства гэтае „пагрузіла гэройскі народ у глыбокі жаль" і збудзіла агульнае абурэньне, як у Польшчы, так і на ўсім сьвеце. „Найшчырэйшыя кондоленцыі, — піша „Osservatore Romano," — перасылаем з пажаданьнямі, каб агіднасьць да праступленьня ды спачуцьцё для гэтае Ахвяры выклікала ўва ўсіх сэрцах што раз дык жывейшае асуджэньне гвалту, які, насупроць усялякіх асноваў рэлігіі і цывілізацыі вельмі ўжо развяльможніўся ў ідэях і абычаях."

**Софія (Кап). Праваслаўная царква ў Баўгарыі і масонскія ўплывы.** Корэспондэнт КАП нядаўна даносіў аб выступленьнях проці пашыранае ў Баўгарыі масонскае работы. Цяпер даносіць аб вострай палеміцы паміж органам Саюзу Царкоўных Брацтваў „Пастірске Дѣло“ з аднаго боку і газэтаю, выдаванаю „Баўгарскім Нацыянальным Саюзам“ — з другога боку.

„Пастірске Дѣло“ зрабіла вышэйназванай газэце, на чале якой знаходзіцца пэўны гэнэрал рэзэрвы, закід, што яна займае прыхільнае і зычлівае становішча датычна масонэрыі. У адказ на гэта, газэта дала выраз свайму зьдзіўленьню, што „Пастірске Дѣло“ гэтак моцна ў гэтай справе абураецца, калі ёсьць агульнавядомаю справаю, што некаторыя праваслаўныя духоўнікі... зьяўляюцца сябрамі масонскае лёжы. Пры гэтай аказіі баўгарская газэта называе цэлы рад прозьвішчаў высокіх саноўнікаў Праваслаўнае Баўгарскае Царквы, сяброў Сыноду, прафэсароў багаслоўя, і іншых, на заканчэньне дадаючы яшчэ, што: „Масонам зьяўляецца галоўны рэдактар афіцыяльнага царкоўнага органу ў Баўгарыі.“

Аглушанае гэтым неспадзяваным ударам „Пастірске Дѣло“ зьвярнулася з заклікам да ўсіх духоўнікаў, пералічаных, як масонаў, каб перавярнулі гэтыя закіды.

Дасюль пануе цішыня. Невядома, што зробяць гэтыя духоўнікі. У кожным выпадку гэта факт, што ў трох ці чатырох апошніх нумарох афіцыяльны царкоўны орган выступіў з вельмі знамянальнаю атакаю проці каталікоў, пазваляючы сабе розныя брахні і плёткі.

**Букарэшт (Кап). Новы заклік аб уніі цэркваў.** Ужо больш як год на абшары Бэсарабіі разьвівае сваю прапагандовую дзейнасьць аб злучэньні ўсіх хрысьціянскіх цэркваў з Апостальскаю Сталіцаю масьціты праваслаўны сьвяшчэньнік а. Ерэмія Цэцан, які на шпальтах свае часопісі „Наша Унія“ прапаведуе свае высокія клічы.

З аказіі Вялікодных сьвятаў а. Цэцан апублікаваў у вышэйназванай часопісі „Адкрытае пісьмо да ўсяго румынскага япіскапату“. У гэтым пісьме а. Цэцан, паказваючы на нэопаганізм і рэлігійны індыфэрэнтызм, як на крыніцы сучаснага моральнага і эканамічнага крызысу, заклікае Румынскі праваслаўны япіскапат да больш эфэктыўнага і практычнага датарноўваньня асноваў хрысьціянскае навукі ўва ўсіх галінах, так сама ў грамадзкіх інстытуцыях, як і ў прэсе. Савецкая Расея, — паводле думкі а. Цэцана, — знаходзіцца сяньня ў настолькі аплаканым стане, толькі дзякуючы пасыўнасьці 200 праваслаўных япіскапаў, якія не патрапілі ўдунуць у расейскі народ праўдзівага хрысьціянскага духу. Хочучы абараніць Румынію ад падобнага лёсу, а. Цэцан заклікае да уніі ўсіх хрысьціян з Рымам, як з тэю

Сталіцаю, якая ад вякоў заўсёды добра бараніла хрысьціянства ад атакаў руйнацкіх сіл сатаны. Вось выняткі з Пісьма а. Цэцана:

„Бачу, што шмат хто з нашых сьвяшчэньнікаў і япіскапаў прыхіляецца да гэтае шчасьлівае ідэі злучэньня ўсяе сьвятое Царквы з адным найвышэйшым відочным аўторытэтам. Аднак-жа ніхто ня мае столькі адвагі і энэргіі, каб узяць на сябе ініцыятыву гэтага незраўнальнага дзела.

Перад паважнаю небясьпекаю ваюючага атэізму і сатанізму, увесь хрысьціянскі сьвет павінен стварыць супольны нязломны фронт. Усе хрысьціянскія сілы павінны згрупавацца вакол аднае нязломнае крэпасьці, якою можа быць толькі Рым, абкружаны сотнямі мільёнаў дасканальна дысцыплінованых і верных каталікоў. Ня трэба баяцца прымату Папы. Сяньня, калі дзеці Сатаны групуюцца каля аднаго ўладыкі, якім хутка будзе „Чалавек Граха“ — Антыхрыст, ня трэба баяцца ў хрысьціянскім сьвеце аднаго відочнага павадыра ўсіх верных, — павадыра, які зьяўляецца сымболем нашае уніі і нашае магутнасьці.

„У гэты настолькі вельмі важны мамэнт пакіньма ў баку ўсялякія амбіцыі і ўсялякія пытаньні меншага значэньня. Аддайма кіраўніцтва ў рукі найсільнейшага, наймагутнейшага...»

Як рэзультат гэтае прыгожа разьвітае і шляхотнае прапаганды, маючай на мэце абарону асноваў Хрыстовых, а. Цэцан быў выкліканы праваслаўным бэсарабскім мітрапалітам зьявіцца ў кішынёўскую кансысторыю, як „абвінавачаны ў справе прапаганды, скірованае проці праваслаўнае царквы.“

Латвія. Даведваемся, што ў новым латыскім урадзе назначаны на становішча віцэ-міністра асьветы а. Др. Антоні Чаман, дырэктар гімназіі ў Дзьвінску. Новы Віцэ-Міністар ёсьць таварышам з Петраграду ды Рыму рэдактара „Да Злучэньня“ і знаюць яго беларусы, як свайго прыхільніка. Рэдакцыя „Да Злучэньня“ новаму Віцэ-Міністру на высокім становішчы жадае багаслаўленьня Божага ў працы для дабра сьвятое сусьветнае царквы і свайго народу.

Рым. 8.VI. г. г. у Рыме высьвячаныя на сьвяшчэньнікаў Станіслаў Ласлі і Віктар Новікаў, абодва з Таварыства Ісусавага; а. Віктар Новікаў — гэта першы новік альбэртынскага навіцыяту. Жадаем 2 барацьбітам за сьвятую ідэю злучэньня хрысьціян шчасьлівае працы на Многія Леты!



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



**ЧАГО ПРАШУ Ў ГОСПАДА ІСУСА ХРЫСТА, КАЛІ АДВЕДВАЮ ЯГО Ў СЬВЯТЫХ ДАРОХ.**

*МАЛІТВА дзяўчынкі 10-цёх гадоў.*

**Я:** Ісусе, навярні тых, што яшчэ Цябе ня знаюць, сашлі на іх сьвятло Сьвятога Духа, каб яны навярнуліся і пазналі міласэрдзе Тваё.

**Ісус:** Маліся шчыра і вытрывала, і вер Мне.

**Я:** Ісусе, выбач мне, што я гэтак часта бываю нядобраю, шчыра хачу паправіцца, а Ты, Госпадзе, памажы мне.

**Ісус:** Выбачаю табе, дзіцятка, толькі працуй над собою.

**Я:** Я прыйшла да Цябе, Ісусе, каб Цябе пацешыць, бо Ты тут ёсьць адзін і чакаеш нас, бо міла Табе, Ісусе, прабываць паміж намі. Ты пакінуў неба і схаваўся ў маленькай чашы, Ты панізіў свой маестат, каб мы не баяліся прыблізіцца да Цябе. Прымі гэтае нашае наведаньне, як чэсьць, аддаую мною Твайму Эўхарыстычнаму Сэрцу.

**Ісус:** Вельмі мілае для Мяне тваё наведаньне, бо Я вельмі палюбіў нявінныя дзеткі. Скажы і іншым дзецям, каб часта Мяне адведвалі, таму што Я тут заўсёды прабываю і чакаю іх.

**Я:** Дзякую Табе, Ісусе, за гэту вялікую ласку, што Ты захацеў быць з намі, хоць Ты і ведаў, што будзеш зьняважаны і забыты шмат якімі людзьмі.

**Ісус:** Мілая для Мяне кожная малітва, а асабліва, калі людзі не забываюцца дзякаваць Мне за атрыманыя ласкі.

## *МАЛІТВА дзяўчынкі 12-цёх гадоў.*

**Я:** Госпадзе Ісусе, я прыходжу падзякаваць Табе за ўсе тыя радасныя мінуты і крыжы, каторыя Ты сяньня спаслаў мне. Я ведаю, о Ісусе, што Ты крыжы спасылаеш, каб мяне дасьведчыць і ўмярцьвіць, а робіш гэта ўсё для дабра душы мае. Дык дзякую Табе за іх і прашу: дай мне, Госпадзе, сілу перанясьці верна ўсялякія праціўнасьці.

**Ісус:** Старайся ўсё, што Я спашлю табе, прымаць з радасьцю, а Я памагу табе.

**Я:** Ісусе! Вельмі шкадую, што не магу гасьціць Цябе штодня ў маім сэрцы, бо люблю Цябе што раз дык больш па меры таго, як пазнаю Цябе. Вазьмі сэрца маё на ўласнасьць і не пазваляй ніколі адлучыцца ад Цябе.

**Ісус:** Так, дзіцятка, я жадаю любові дзяцей і Сам люблю вас, бо-ж дзеля таго і зыйшоў Я на зямлю, каб вас збавіць.

**Я:** О, Госпадзе! Дай нам здароўе, памагай у навуках, каб мы тым лепш пашыраць маглі царства нябеснае, але перш за ўсё дай нам тое, што Ты прызнаеш патрэбным.

**Ісус:** Што толькі раблю Я, дык усё гэта ёсьць для дабра душы твае, і хоць гэта часам зьяўляецца для цябе прыкрым, — згаджайся з воляю Божаю.



# Справаздача Акадэміі Эўхарыстычных круцыятаў

## у Варшаве, 26 лістапада 1933 г.

Арганізоўваныя з году ў год Эўхарыстычныя Акадэміі, г. зв. Круцыяты, прыцягваюць усё новых ды новых сяброў. Як папярэднія, так і апошняя Акадэмія паказалі ясна, да якое сілы і ўплыву ўзрос гэты, параўнальна яшчэ малады, але ўжо магутны колькасьцю пасьлядоўнікаў, Каталіцкі Саюз. Усе ўчасьнікі Круцыят, створаных гэтым Саюзам, зьяўляюцца паказальнікам тых сілаў, якімі дыспонуе Саюз, арганізованы з глыбокаю ведаю справы і пачуцьцём. Усе, хто наведваў Акадэміі і вельмі цікавіўся пастаноўкаю Круцыятаў, горача вітаў іх далейшае разьвіцьцё ў будучыні і з нецярплівасьцю чакае чароднае Гадавое Акадэміі.

У бягучым годзе Саюз улажыў шмат працы і стараньняў пры ўладжаньні Акадэміі, не запамінаючы пры гэтым, што гэта год Юбілею, а іменна 1900-тыя ўгодкі сьмерці Настаўніка — Хрыста — Цара. Пастаноўлена было прадставіць „Трыумф Крыжа“, выданы коштам Сёстраў Уршулянак С. Ч. К. Ён прадстаўляе сабою збор жыва напісаных абразоў, кожны з якіх павінна была прадставіць іншая Круцыята; у ім праводзіцца думка непарушальнасьці Скалы Хрыстовае — Каталіцкае Царквы, а таксама і роля Польшчы, аднае з найвярнейшых дачок яе, аддаўшай ёй шмат паслугаў.

Ужо задоўга да пачатку Акадэміі, саля была гэтак шчыльна перапоўнена, што новапрыбыўшыя павінны былі затрымлівацца ў дзьверах. У пачатку ўрачыстасьці А. Магістар Кс. Іоан Куйда, у кароткіх, але выразных словах, вылажыў мэту Круцыятаў і неабходнасьць іхнага гадавога публічнага выступленьня, пры чым удачна і да рэчы падчыркнуў, што толькі выхаваньне ў каталіцкім духу, у духу Круцыятаў можа быць народным і дзяржаўным.

Пасьля прамовы Кс. Куйды, у салю ўвайшлі Іх Прааськяшчэнствы Япіскапы Гальль і Шлягоўскі. Зараз-жа паднялася заслона і пачалося прадстаўленьне. У некалькіх вельмі прыгожых абразох на зьдзіўленьне добра былі прадстаўлены мамэнты трыумфу Царквы, а таксама і дзеяльнасьць яе па распаўсюджваньні ідэяў Хрыстовых па ўсім сьвеце. Перад вачыма глядзельнікаў па парадку праходзяць абразы: мучаніцтва першых хрысьціян, перамогі крыжа, прызнанае міланскім указам, вайсковых паходаў крыжаносаў, Трыдэнцкага Сабору і, нарэшце, разьвіцьця місіянэрства. Прыгожа ад'значана таксама і роля Польшчы, якая, прыняўшы ў X стагодзьдзі хрысьціянства, дзякуючы шлюбу Ядвігі з Ягайлаю, пашырыла яго на Літву, а пасьля бараніла яго ад туркаў, што стварыла ёй ганаровы тытул: „Sem-

per fidelis". Асабліва прыгожымі былі абразы крыжавых паходаў і місіяў. У іх было гэтак шмат руху, чулася гэткая сугучнасьць, што зьдзіўленыя глядзельнікі з радасьцяй глядзелі на сцэну, шчодра абсыпаючы выканаўцаў гучнымі воплескамі. Таксама артыстычна-прыгожым быў абраз — „Хрышчэньне Польшчы" з добра праведзенаю песьняю „Багародзіца" і „Каралева Ядвіга". Наагул усё прадстаўленьне зрабіла на ўсіх наймілейшае ўражаньне. Пакідаючы салю, усьцешаныя учасьнікі акадэміі горача дзякавалі ініцыятарам і шчыра жадалі далейшага разьвіцьця Саюзу Круцыятаў.

**(КАП).**

---

# Усячына.

**— Сьв. Айцец аб адбудове Аўстрыі.** На пісьмо меўшага нядаўна нараду япіскапату аўстрыяцкага ў Вене, з падзякаю за вялікі акт конкордату, на рукі кардынала Інніцэра прыйшоў з Ватыканскага Дзяржаўнага Сэкрэтарыяту адказ, у якім Папа выслаўляе палітычную мудрасьць і абапёртае на глыбокай рэлігійнай веры пачуцьцё справядлівасьці Аўстрыяцкага канцлера д-ра Дольфуса, дзякуючы якому конкордат быў зроблены. Сьв. Айцец моліць аб далейшай помачы нябёсаў для яго і яго супрацоўнікаў, якія будучыну паверанага ім народу хочуць будаваць на асновах, устаноўленых воляю Божаю і Яго законамі. Багаслаўляючы іх, Сьв. Айцец прыймае адначасна з задаволеньнем да ведама, што аўстрыяцкі япіскапат выказаўся за моральнае і матар'яльнае падтрыманьне пры вялікай будове свайго краю ў духу хрысьціянскім. (Кап).

**— Румынская пілётка манашкаю.** У Румыніі вялікую сэнсацыю выклікала вестка аб пасупленьні ў манастыр ў Букарэшце вядомае пілёткі Смаранды Браэску. Нядаўна галосным быў яе удзел у лятунскім конкурсе ў Амэрыцы, дзе яна ўстанавіла жаночы рэкорд скоку з парашутам з вышыні 7.000 мэтраў. Апрача гэтага Смаранда Браэску мела некалькі іншых жаночых рэкордаў у лятунстве, якія аж дасюль нікім ня былі пабіты. Спортыўны спрыт не супакоіў яе духу, пасьля палётаў у фізычныя вышыні, яна зажадала высокіх лётаў для свае душы і, не знаходзячы гэтых магчымасьцяў у сьвеце, пастанавіла пайсьці ў манашкі. Яе жаданьнем зьяўляецца, пасьля адбыцьця навіцыяту, аддацца місійнай працы на Далёкім Усходзе. (Кап).

**— Адзін мільён 200 тысяч** жыхароў налічвалася на дзень 1-га студня сёлетняга году ў Варшаве.

**— 1.138.932** цэнтнары цукру вывезена ў 1933 годзе за граніцу.

— Польскія дзяржаўныя чыгункі перавязьлі ў 1933 г. 4·315.400 тоннаў тавараў(у тонне 62 з палавінаю пуды).

— Былы Расейскі гэнэрал Аляксей Курпов памёр у аднэй вёсцы каля Каліша, як жабрак, прыняты на начлег у адну хату. Рэвалюцыя змусіла яго пакінуць Расею і жыцьцё сваё ён падтрымліваў жабрацтвам у Польшчы, дзе і памёр.

— Жыхароў у Польшчы на дзень 1 студня сёл. году налічвалася 33.024.000. Прырост за 1933 год — 402 тыс. чалавек, у гэтым 260 тыс. душ рымска-каталікоў, 45 тыс. грэка-каталікоў, 62 тыс. праваслаўных, 4 тыс. пратэстантаў, 26 тыс. жыдоў і 3.175 асобаў іншых веравызнаньняў.

— Спажываньне валовага і цялячага мяса ў Польшчы зьменшылася ў мінулым 1933 годзе блізка што на 30 процантаў у параўнаньні да ранейшых гадоў. Прычына зьменшаньня — крызыс.

Найглыбейшая капальня ў Эўропе знаходзіцца ў Чэхаславакіі; яна дасягае 1.345 мэтраў глыбіні і зьяўляецца найбагатшаю капальняю серабра і антымону ў Эўропе.

— Пад'земны тунэль цераз Мон-Блян, гару ў Альпах вышынёю 4.810 мэтраў, замервэюцца правясьці Швайцарыя, Францыя і Італія. Гэты пад'земны калідор будзе мець 12 кілёмэтраў даўжыні і 13 мэтраў вышыні. Будова яго працягнецца каля 4-х гадоў.

Дзякуючы выпадкам з самаходамі ў працягу 7 гадоў (з 1926 да 1933) згінула ў Велікабрытаніі 50.837 асобаў, 1.420.083 былі цяжка або лёгка ранены.

— Больш як два мільярды людзей жыве на зямлі агулам, паводле апошніх статыстычных падлічэньняў. Азія мае 1 мільярд 103 мільёны жыхароў, Эўропа — 506 мільёнаў, Амэрыка — 252 мільёны, Афрыка — 142 міл. і Аўстралія— 20 мільёнаў.



# Календар

на м—ц Ліпень 1934 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i światy łac. abr. | | |
| 1 | С | Кузьмы і Дзям'яна | 14 | S | Bonawentury |
| 2 | Н | **Н.7 п.П. Пал. рызы Пр. Б.** | 15 | N | **Razasł. Apost.**, Henryka |
| 3 | П | Яцэнта | 16 | P | *Maci Bož Škapl.*, Andreja |
| 4 | А | Андрэя | 17 | A | Alaksieja, Marcelaha |
| 5 | С | Кірылы і Мяфода | 18 | S | Symona, Kamila, Fryder. |
| 6 | Ч | Апанаса | 19 | Č | Wincentaha a Paulo |
| 7 | П | Тадэя | 20 | P | Česława, Heronima, Haljš. |
| 8 | С | Ракопа | 21 | S | Praksedy, Wiktara, Daniel. |
| 9 | Н | **Нядз.8 п.Пяцьдз.** Панкрт. | 22 | N | **Maryi Mahdaleny.** |
| 10 | П | Антонія Пячэрскага | 23 | P | Apalinara |
| 11 | А | Кн. Вольгі | 24 | A | Ottona,Krystyny,Kuniehn. |
| 12 | С | Прокла і Гілярыя | 25 | S | Apost.Jakuba,Chrystafora |
| 13 | Ч | Арх. Гаўрылы | 26 | Č | Hanny — matki N. Dz. M. |
| 14 | П | Акілы | 27 | P | Rudolfa, Natalii |
| 15 | С | Ўладзімера | 28 | S | Wiktara, Inakiencija |
| 16 | Н | **Н. 9 п. П.** Афінагена | 29 | N | **Marty dziewy** |
| 17 | П | Марыны | 30 | P | Aldony |
| 18 | А | Амільяна | 31 | A | Ihnata, Aleny |
| | | | | | ŽNIWIEŃ |
| 19 | С | Макрыны | 1 | S | Piotry ŭ Akowach |
| 20 | Ч | Ільлі прар. | 2 | Č | N. Dz. Maryi Anielskaj |
| 21 | П | Сымона | 3 | P | Znachod relikw. św. Ściap. |
| 22 | С | Марыі Магдалены | 4 | S | Daminika, Arystarcha |
| 23 | Н | **Н. 10 п. П.** Трахіма | 5 | N | **Maci Božaj Śnieżnaj** |
| 24 | П | Барыса і Глеба | 6 | P | *Pieraabraženńie J. Chr.* |
| 25 | А | Ганны | 7 | A | Kajetana, Danata |
| 26 | С | Ермалая | 8 | S | Amiljana, Kiryjaka. Smar. |
| 27 | Ч | Панцелеймона | 9 | Č | Jana, Ramana |
| 28 | П | Прахора | 10 | P | Łaŭryna, Bahdana |
| 29 | С | Калініка | 11 | S | Zuzanny |
| 30 | Н | **Н. 11 п. П** Сілы і Сілуана | 12 | N | Klary, Hilaraha |
| 31 | П | Аўдакіма | 13 | P | Hipolita, Kaśjana |

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*

# Календар

на м—ц Жнівень 1934 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | А | Пад. Сьв. Кр. | 14 | A | (Wihilija). Aŭsieja, Eŭzeb. |
| 2 | С | Пер. ц. с. Сьцяп. | 15 | S | *M. B. Zieln. (Uniebz. N Dz M)* |
| 3 | Ч | Ісаака Далнацк. | 16 | Č | Jachima—baćki N. Dz. M. |
| 4 | П | 7-х сьв. Айцоў з Эф. | 17 | P | Jacka, Mirona, Paŭła |
| 5 | С | Аўсенія | 18 | S | Aleny |
| 6 | Н | **Н. 12 п. П. Праабр. Господ.** | 19 | N | **Maryjana, Ludwika** |
| 7 | П | Дамацыя | 20 | P | Bernarda, Sciapana |
| 8 | А | Амільяна | 21 | A | Ioanny, Franciški |
| 9 | С | Мацея | 22 | S | Cimachwieja |
| 10 | Ч | Лаўрына | 23 | Č | Pilipa, Benicyja |
| 11 | П | Авілы | 24 | P | Apost. Baŭtramieja |
| 12 | С | Фоція і Анікі | 25 | S | Ludwika |
| 13 | Н | **Н. 13 п. Пяцьдз.** Максіма | 26 | N | **M. B. Jasnahorskaj** |
| 14 | П | Міхея | 27 | P | Jozafata Kalasan. |
| 15 | А | **Усьп. Пр. Багародз.** | 28 | A | Aŭhustyna, Hermana |
| 16 | С | Пераняс Абр. Госп., Дзям. | 29 | S | *Ściaćcie hał. św. Jana Chr.* |
| 17 | Ч | Мірона | 30 | Č | Feliksa, Rožy |
| 18 | П | Хлора | 31 | P | Rajmunda, Paŭliny, Izabeli |
| | | | | | WIERASIEŃ |
| 19 | С | Андрэя | 1 | S | Branisławy |
| 20 | Н | **Н. 14 п. П.** пр. Самуіла | 2 | N | **Ściapana** |
| 21 | П | Ап. Тадэя | 3 | P | Symona, Zenona, Izabeli |
| 22 | А | Агатоніка | 4 | A | Rožy i Razalii, Marcelaha |
| 23 | С | Лупа. Калініка | 5 | S | Łaŭryna, Justynijana |
| 24 | Ч | Аўціхея | 6 | Č | Zachara, Petronija |
| 25 | П | Варфаламея | 7 | P | Jana, Rehiny dziewy |
| 26 | С | Адрыяна | 8 | S | *Naradz. N. Dz. Maryi* |
| 27 | Н | **Н. 15 п. П.,** сьв. Лібэрыя п. | 9 | N | **Siarhieja, Piotry** |
| 28 | П | Аўгустына | 10 | P | Mikoły z Talentynu |
| 29 | А | С. Г. С. Івана | 11 | A | Piotry i Jacka |
| 30 | С | Аляксандра | 12 | S | *Imia Najśw. Dz. Maryi* |
| 31 | Ч | Пал. паяса Пр. Дз. | 13 | Č | Pilipa, Aŭheńni. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.